

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!



# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Бюро Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады (г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3). — Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.

VI-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

| № 25 (99) | 24 сьнежня 1930 г. | № 25 (99) |
|---|---|---|

## ЗЬМЕСТ



---

## Пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР.

### Паст. 200. Пра абвяшчэньне пастановы НК Працы СССР за 29 кастрычніка 1930 г. № 332 „Пра парадак заключэньня дагавораў аб маемаснай адказнасьці працаўнікоў за недахват каштоўнасьцяў".

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе абвясьціць да кіраваньня наступную пастанову НК Працы СССР:

Пастанова НК Працы СССР за 29/X-1930 г. № 332 „Пра парадак заключэньня дагавораў аб маемаснай адказнасьці працаўнікоў за недахват каштоўнасьцяў".

У адпаведнасьці з п. „в" арт. 2 пастановы ЦВК і СНК СССР за 12 чэрвеня 1929 г. аб маемаснай адказнасьці рабочых і служачых за страты, зробленыя імі наймальнікам (З. З. СССР 1929 г., № 42, арт. 367) НК Працы СССР пастанавіў:

1. Асобныя пісьмовыя дагаворы пра маемасную адказнасьць за недахват каштоўнасьцяў, перададых пад адказнасьць працаўніка, могуць заключацца з працаўнікамі наступных катэгорый:

а) касіры ўсіх спэцыяльнасьцяў ва ўсіх прадпрыемствах і ўстановах, у тым ліку і касавыя падлічальнікі;

б) загадчыкі складаў, іх памочнікі і кладаўшчыкі, якія загадваюць асобнымі кладовымі;

в) загадчыкі магазынаў і загадчыкі крамаў;

г) загадчыкі аддзелаў, аддзяленьняў або сэкцый магазынаў, калі ў гэтых аддзелах, аддзяленьнях або сэкцыях ёсьць асобны падлік тавараў з самастойным штатам;

д) агэнты для грашовых і таварных даручэньняў, у тым ліку інкасатары і экспэдытары;

е) гардэробшчыкі;

ж) латошнікі, ларочнікі, прадаўцы твораў друку ў кіёсках, прадаўцы ў крамах Цэнтрасьпірту;

з) працаўнікі сувязі (апроч прадугледжаных у папярэдніх пунктах): падлічальнікі грошаў і марак, дзяжурныя па канторы—калі ў іх абавязкі ўваходзіць задзелка і разьдзелка страхавых пошт; лістаносцы і пасыльныя тэлеграфу, занятыя дастаўкаю страхавой карэспандэнцыі і пераводаў, працаўнікі, якія заняты перавозам пошты і абменам яе; старшыя паштовых вагонаў і іх памочнікі, загадчыкі агэнцтваў, страхавых аддзелаў і кладовых, дзе захоўваюцца каштоўнасьці (грашовыя, пасылачныя, марачныя і інш.); загадчыкі прадпрыемстваў сувязі і іх памочнікі, калі ў абавязкі гэтых працаўнікоў уваходзіць правядзеньне страхавых апарацый, задзелка і разьдзелка пошты і загадваньне кладовымі з каштоўнасьцямі;

і) працаўнікі ашчадных кас (звыш прадугледжаных у папярэдніх пунктах): загадчыкі ашчадных кас, іх аддзелаў і аддзяленьняў і памочнікі гэтых асоб; кантралеры і памочнікі кантралераў;

к) працаўнікі НК Шляхоў (апроч прадугледжаных у папярэдніх пунктах): працаўнікі касавых часьцей дырэкцый, зьвязаныя з хаваньнем вэксалёў, чэкаў на атрыманьне грошаў з банку; бухгальтары-вагаўшчыкі, дзясятнікі складаў апалу і лесаматарыялаў, пагрузачна-выгрузачных работ, гаспадарчых перавозак, лесараспрацовак і лесазагатовак, загадчыкі акалодкаў (пры адсутнасьці спэцыяльных кладаўшчыкоў для хаваньня матарыялаў), загадчыкі пагрузачна-выгрузачных работ, пакгаўзаў, багажных апарацый, загадчыкі камэрцыйных апарацый, камэнданты прытулкаў, начальнікі станцый і разьездаў, дзе няма касіраў і вагаўшчыкоў, нарадчыкі цягніковых брыгад, начальнікі гарадзкіх станцый, капітаны суднаў, дзе няма касіраў, начальнікі лесанарыхтоўчых вучасткаў, прыёмшчыкі матарыялаў, апалу, лесаматарыялаў і грузаў, прыхода-расходчыкі матарыялаў, праваднікі службовых вагонаў, пад ведамам якіх знаходзяцца каштоўныя матарыялы, раздатчыкі (развозчыкі) матарыялаў, разьяздныя, кіраўнікі груп па наяўных закупках, наглядчыкі таварных і пагрузачных двароў, пакгаўзаў, будынкаў, сартавальных пляцформ, вартаўнікі дзяжурных памяшканьняў і кантор, вартаўнікі аховы багажу, багажныя раздатчыкі.

2. У дагаворах павінны быць прадугледжаны ня толькі абавязацельствы працаўнікоў па аплаце зробленай імі страты, але і абавязацельствы наймальніка па дачы нармальных умоў працы і вытворчых абставін, якія забясьпечваюць працаўніку правільнае правядзеньне патрэбных апарацый з найменшаю рызыкаю для даручаных яму каштоўнасьцяў.

3. У выпадку адмовы працаўніка ад падпісаньня дагавору аб маемаснай адказнасьці, які складзен у адпаведнасьці з арт. 2 гэтай пастановы, наймальнік можа запрапанаваць працаўніку перавод на іншую працу, адпавядаючую яго кваліфікацыі, а калі такой работы няма, або пры адмове працаўніка ад даваемай яму іншай работы, наймальнік можа зволіць яго бяз выплаты выхадной дапамогі.

4. З працаўнікамі, якія займаюць пасады, непрадугледжаныя гэтымі правіламі, але зьвязаныя з абслугоўваньнем грашовых і таварных каштоўнасьцяў, дагаворы аб маемаснай адказнасьці могуць заключацца з дазволу мясцовых органаў працы.

5. Тлумачэньне НК Працы СССР за 31/X-1929 г. № 347 „Пра парадак заключэньня з работнікамі дагавораў аб маемаснай адказнасьці („Известия НКТ СССР“ 1929 г. № 48-49) касуецца.

Арыгінал падпісалі: Народны Камісар Працы СССР Ціхон і Член Калегіі НКП СССР Іваноў.

Народны Камісар Працы БССР **М. Гнілякевіч.**

Старшы Інспэктар НКП БССР **Рабышка.**

29 лістапада 1930 г.
№ 60.

**Паст. 201. Пра дапаўненьне пастановы НК Працы БССР за 15 кастрычніка 1930 г. № 52 „Пра ўніфікацыю аплаты працы за нарыхтоўку і разьдзелку дровалесаматарыялаў“.**

У дадатак да пастановы НКП БССР за 15 кастрычніка г. г. „Пра ўніфікацыю аплаты працы за нарыхтоўку і разьдзелку дровалесаматарыялаў“ (Бюл. СНК 1930 г. № 22 (96), Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць расцэнку аплаты працы за нарыхтоўку і разьдзелку дровалесаматарыялаў паводле наступнай табліцы:

| №№ па чарзе | НАЗВА МАТАРЫЯЛАЎ | Адзінка абмеру | Плата за адзінку абмеру |
|---|---|---|---|
| 1 | Швэлі дубовыя . . . | дзесятка | 1 руб. |
| 2 | „ „ . . . | васьмёрка | — 90 к. |
| 3 | „ „ . . . | сямёрка | — 80 к. |
| 4 | Дубэльтант . . . . | 1 | 1 руб. 25 к. |
| 5 | Швэлі сасновыя . . . | дзесятка | — 75 к. |
| 6 | „ „ . . . | васьмёрка | — 65 к. |
| 7 | „ „ . . . | сямёрка | — 55 к. |
| 8 | Дубэльтант . . . . | 1 | 1 руб. — |
| 9 | Сьліпры . . . . . | дзесятка | 1 руб. — |
| 10 | „ . . . . . | васьмёрка | — 90 к. |
| 11 | „ . . . . . | сямёрка | — 80 к. |
| 12 | Ягіпецкія бэлькі 12 ф. 6 д. (усялякай таўшчыні) | 1 | 40 к. |
| 13 | „ „ 15 ф. 9 д. | 1 | — 50 к. |
| 14 | „ „ 18 ф. 9 д. | 1 | — 60 к. |
| 15 | „ „ 22 ф. 9 д. | 1 | — 65 к. |
| 16 | „ „ 25 ф. 9 д. | 1 | — 70 к. |

2. Пры распрацоўках па мерах догляду за лесам (прарэжваньне, прачыстка, распрацоўка буралому, пры прахадных выбарачных рубках) расцэнкі ў адпаведнасьці ад парод, паказаных у пастанове за 15 кастрычніка, павялічваюцца на 25 проц.

3. Пры нарыхтоўцы дровалесаматарыялаў на рэдзінах, недарубах з-за залежаў (плотнасьць насаджэньня 100 куб. мэт.) расцэнкі павялічваюцца ў адпаведнасьці ад парод, паказаных у пастанове за 15 кастрычніка на 20 проц.

4. Пры нарыхтоўцы авіо расцэнкі павялічваюцца на 50 проц., а па вывазцы на 25 проц. у адпаведнасьці ад парод, паказаных у пастанове за 15 кастрычніка.

5. Поўная акорка ўсіх відаў драўніны аплачваецца на 100 проц. даражэй як за нарыхтоўку у адпаведнасьці ад парод.

6. Пралызка (няпоўная акорка) аплачваецца на 50 проц. даражэй, чым за нарыхтоўку у адпаведнасьці ад парод.

7. Расцэнкі на сьліпры, швэлі і ягіпецкія бэлькі, паказаныя у пастанове НКП за 15 кастрычніка г. г., лічыць скасаванымі.

8. Расцэнка устаноўленая НКП за 15 кастрычніка г. г. на брускі Рудатрэсту трэба чытаць „арсэнальная сьпіца Рудатрэста“, чым уносіцца зьмена ў назву асартымэнту.

9. Усе гэтыя дадаткі да выданых 15 кастрычніка г. г. расцэнак праводзіць пры наяўнасьці паказанай працы. Леспрамгасам, Беллеспраму і Райгарінспэктарам трэба складаць адпаведныя акты на прадстаячую працу з абавязковым зацьверджаньнем РВК на мясцох.

10. За парушэньне і адхіленьне ад гэтай пастановы вінаватыя прыцягваюцца да судовай адказнасьці.

11. На раённых гарадзкіх інспэктароў працы ўскладаецца кантроль за ажыцьцяўленьнем гэтай пастановы.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Д. Захарава.**

Ст. Інспэктар па Сэзонных Галінах
народнай гаспадаркі НКП БССР **З. Іоффе.**

28 лістапада 1930 г.
№61.

**Паст. 202. Пра ўвядзеньне ў сілу на тэрыторыі БССР арт. арт. 7 і 9 пастановы НК Працы СССР за 31/V-1930 г. № 196 „Агульныя правілы бясьпекі пры працы на трактарох“.**

Народны Камісарыят Працы БССР на падставе арт. 45 абавязковай пастановы НК Працы СССР за 31/V-1930 г. № 196 „Агульныя правілы бясьпекі пры працы на трактарох“ („Извест. НКТ“ 1930 г. № 17/18) пастанаўляе: увесьці ў сілу на тэрыторыі БССР арт. арт. 7 і 9 паказанай вышэй абавязковай пастановы НК Працы СССР з 1-га красавіка 1931 г.

Арт. 6 паказанай абавязковай пастановы будзе ўведзен у сілу на тэрыторыі БССР дадатковай пастановай НК Працы БССР.

Народны Камісар Працы БССР **М. Гнілякевіч.**

Ст. Інспэктар НКП БССР **В. Марозаў.**

10 сьнежня 1930 г.
№ 62.

**Паст. 203. Пра парадак пераводу ўстаноў на 5-дзённы перапынны рабочы тыдзень.**

На падставе пастановы СНК СССР за 21 верасьня 1930 г. (З. З. СССР 1930 г. № 49, арт. 518) Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Установы з лікам рабочых да 20, якія не зьвязаны беспасрэдна з рабочымі масамі, могуць пераходзіць на перапынны 5-дзённы рабочы тыдзень з устанаўленьнем аднаго выхаднога дня для ўсіх работнікаў выключна з дазволу НК Працы БССР у кожным паасобным выпадку.

2. Установы, якія перайшлі да гэтага часу на перапынны 5-дзённы рабочы тыдзень, павінны на працягу дэкады з дня апублікаваньня гэтай пастановы паведаміць аб гэтым НК Працы БССР.

3. Нагляд за выкананьнем гэтай пастановы ўскладаецца на інспэктароў працы.

4. Кіраўнікі ўстаноў, якія парушаюць гэтую пастанову, прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасьці праз накладаньне штрафу да 100 р.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Д. Захарава.**

11 лістапада 1930 г.
№ 58.

**Паст. 204. Часовае палажэньне пра мясцовыя органы Народнага Камісарыяту Працы БССР.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе зацьвердзіць наступнае палажэньне пра мясцовыя органы НК Працы БССР.

1. Мясцовымі органамі НК Працы БССР зьяўляюцца:
а) раённыя (гарадзкія) інспэкцыіп рацы;
б) раённыя (гарадзкія) і раённа-гарадзкія страхавыя касы;
в) райстрахбюро.

2. У склад раённай (гарадзкой) інспэкцыі працы ўваходзяць:
а) інспэктар працы;
б) кіраўніцтва кадраў;
в) упаўнаважны па забясьпечаньню народнай гаспадаркі сэзоннай рабсілай.

**А. Раённыя (гарадзкія) інспэкцыі працы.**

3. Да кампэтэнцыі раённых (гарадзкіх) інспэкцый працы належыць правядзеньне на тэрыторыі раёну (гораду) ўсіх палажэньняў і норм па рэгуляваньню працы.

4. На чале раённай (гарадзкой) інспэкцыі працы стаіць інспэктар працы.

Раённыя (гарадзкія) інспэкцыі працы вядуць сваю работу пад кіраўніцтвам раённага выканаўчага камітэту (гарсавету) і па дырэктывах НК Працы БССР.

5. На раённыя (гарадзкія) інспэкцыі працы ўскладаецца:

а) правядзеньне ў жыцьцё мерапрыемстваў па рэгуляваньню і аздараўленьню ўмоў працы, па палепшаньню матарыяльна-бытавых і культурных умоў жыцьця рабочых, садзейнічаньне правільнай арганізацыі працы і ўзмацненьне працдысцыпліны;

б) плянаваньне народнай гаспадаркі раёну (гораду) ў галіне працы і статыстыкі працы;

в) рэгуляваньне працоўных рэсурсаў, падрыхтоўка рабсілы і плянавае забясьпечаньне рабсілай народнай гаспадаркі;

г) вырашэньне працоўных спрэчак;

д) нагляд за выкананьнем заканадаўства аб працы, калектыўных і працоўных дагавораў, згод з органамі працы і распараджэньняў органаў працы.

6. У галіне арганізацыі і аздараўленьня ўмоў працы на раённую (гарадзкую) інспэкцыю працы ўскладаецца:

а) папярэдні і бягучы нагляд за будаўніцтвам, становішчам і абсталяваньнем прадпрыемстваў, устаноў і гаспадарак; распрацоўка патрэбных мерапрыемстваў па аздараўленьню ўмоў працы; дача распараджэньняў і заключэньне згод аб іх правядзеньні і нагляд за іх ажыцьцяўленьнем;

б) змаганьне з траўматызмамі і прафатручваньнямі;

в) складаньне плянаў разьвіцьця народнай гаспадаркі ў частцы пытаньняў працы і ўдзел у разглядзе гэтых плянаў у цэлым;

г) правядзеньне мерапрыемстваў, зьвязаных з нармаваньнем і рэгуляваньнем зарплаты ў прадпрыемствах і ўстановах мясцовага значэньня;

д) удзел у складаньні раённага (гарадзкога) бюджэту ў частцы заработнай платы і выдаткаў па абслугоўваньню матарыяльна-бытавых і культурных патрэб рабочае клясы;

е) кантроль за своечасовай і правільнай выплатай зарплаты і за выкананьнем дырэктыў Ураду ў галіне зарплаты.

7. У галіне садзейнічаньня правільнай арганізацыі працы і замацаваньня працоўнай дысцыпліны на раённыя (гарадзкія) інспэкцыі працы ўскладаецца:

а) распрацоўка мерапрыемстваў па найлепшай арганізацыі працы ў прадпрыемствах, установах і гаспадарках;

б) садзейнічаньне ў працы прадпрыемстваў, устаноў і гаспадарак па арганізацыі працы;

в) вывучэньне становішча працоўнай дысцыпліны і садзейнічаньне гаспадарчым органам і прафсаюзам у працы па яе ўзмацненьні, распрацоўка патрэбных мерапрыемстваў і дача распараджэньняў па адхіленьню недахопаў па арганізацыі працы;

г) садзейнічаньне ў правядзеньні сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва.

8. У галіне рэгістрацыі калектыўных дагавораў і вырашэньня працоўных спрэчак на раённыя (гарадзкія) інспэкцыі працы ўскладаецца:

а) рэгістрацыя ва ўстаноўленых законам выпадках калектыўных дагавораў і тарыфных згод;

б) арганізацыя міравога і пасрэдніцкага разгляду працоўных спрэчак.

9. У галіне палепшаньня матарыяльна-бытавога становішча рабочых на раённыя (гарадзкія) інспэкцыі працы ўскладаецца:

а) выяўленьне патрэбы раёну (гораду) у жылішчах, сталовых, больніцах, магазынах для рабочых, распрацоўка і ўнясеньне на разгляд адпаведных органаў патрэбных мерапрыемстваў;

б) увязка мерапрыемстваў, якія праводзяцца ўсімі арганізацыямі раёну (гораду) па палепшаньню культурнага і матарыяльна-бытавога абслугоўваньня рабочых і па аграмаджаньні быту, кантроль за выкананьнем гэтымі арганізацыямі дырэктыў вышэйшых органаў і распрацоўка дадатковых патрэбных мерапрыемстваў;

в) падлік сродкаў, якія паступаюць на паказаныя у п. „а" мэты.

10. У галіне плянава-эканамічнай і статыстычнай работы на раённыя (гарадзкія) інспэкцыі працы ўскладаецца:

а) распрацоўка гадавых плянаў і кантрольных лічбаў па раёну (гораду) па пытаньнях працы на падставе дырэктыў НК Працы і РВК (гарсавету);

б) распрацоўка статыстычных матарыялаў, складаньне пэрыядычных статыстычных аглядаў.

11. Для ажыцьцяўленьня ўскладзеных на раённую (гарадзкую) інспэкцыю працы абавязкаў ёй даецца права:

а) даваць абавязковыя тлумачэньні па ўжываньні чыннага заканадаўства аб працы і сацыяльным страхаваньні па запытаньнях паасобных арганізацый і асоб;

б) апратэставаньне ва ўстаноўленым парадку распараджэньняў па пытаньнях працы РВК (гарсавету) у тых выпадках, калі такія распараджэньні пярэчаць чыннаму заканадаўству альбо дырэктывам НК Працы або іншых вышэйшых органаў;

в) накладаньне ва ўстаноўленым законам парадку спагнаньняў за парушэньне заканадаўства аб працы.

**Б. Кіраўніцтвы кадраў.**

12. Кіраўніцтвы кадраў арганізуюцца ў прамысловых раёнах паводле асобнага сьпісу НК Працы БССР.

13. Наём рабочай сілы праводзіцца выключна праз кіраўніцтвы кадраў.

Выключэньні з гэтага правіла ўстанаўляюцца спэцыяльнымі пастановамі.

Забясьпечаньне прадпрыемстваў і ўстаноў рабочай сілай іншымі арганізацыямі і прыватнымі асобамі забараняецца.

14. Забясьпечаньне народнае гаспадаркі рабочай сілай праводзіцца кіраўніцтвамі кадраў на падставе дагавораў, якія заключаюцца імі з гаспадарчымі органамі.

У паказаных дагаворах паказваюцца колькасьць і кваліфікацыя патрэбнай рабсілы, парадак і тэрміны забясьпечаньня ёю, парадак і тэрміны падрыхтоўкі рабочай сілы на прадпрыемстве, а таксама размеры заработнай платы, жылішчныя ўмовы, умовы працы і быту і інш.

15. На кіраўніцтвы кадраў ускладаецца:

а) выяўленьне і падлік рабсілы з ліку працоўных гарадзкога і сельскага насельніцтва;

б) арганізаванае прыцягненьне з гораду і вёскі рабсілы, якая мае права рэгістравацца ў кіраўніцтве кадраў.

в) адбор рабочай сілы па сацыяльных прыметах, кваліфікацыі і фізычнаму становішчу;

г) плянавае забясьпечаньне рабочай сілай прамысловасьці, транспарту, сэзонных і інш. галін народнай гаспадаркі;

д) кантроль за правільным скарыстаньнем рабочай сілы ў вытворчасьці, таксама выяўленьне лішкаў рабочай сілы і перакідваньне рабсілы ў іншыя прадпрыемствы;

е) зьняцьце рабсілы з прадпрыемстваў і установ менш важных галін народнай гаспадаркі і перакідваньне яе ў прадпрыемствы і ўстановы больш адказных галін, таксама на буйныя будаўніцтвы і з раёну ў раён (калі немагчыма здаволіць патрэбу у рабсіле з іншых крыніц);

ж) садзейнічаньне працуючым не па спэцыяльнасьці ў пераходзе на працу па спэцыяльнасьці;

з) плянаваньне і кантроль за падрыхтоўкай рабсілы, якая праводзіцца іншымі арганізацыямі;

і) падбор і камплектаваньне ўсіх школ і курсаў па падрыхтоўцы рабсілы і ўдзел у арганізацыі адпаведнымі органамі агульна-адукацыйных курсаў для падрыхтоўкі паступаючых у школы ФЗВ і масавых прафэсій.

16. У склад кіраўніцтва кадраў уваходзяць наступныя сэкцыі:

а) сэкцыя плянаваньня кадраў;

б) сэкцыя гарадзкога рынку працы;

в) сэкцыя падрыхтоўкі рабочае сілы;

г) сэкцыя прафэсійнага адбору, прафкансультацыі і праверкі кваліфікацыі;

17. На чале кіраўніцтва кадраў стаіць загадчык, які вылучаецца прафэсійнымі арганізацыямі і назначаецца раённым (гарадзкім) інспэктарам працы.

Загадчык кіраўніцтва кадраў падпарадкаван раённаму (гарадзкому) інспэктару працы.

18. Пры кіраўніцтве кадраў арганізуюцца саветы па рынку працы. У склад саветаў уваходзяць:

а) загадчык кіраўніцтва кадраў (старшыня);

б) 3 прадстаўнікі ад прафсаюзных арганізацый (з якіх 1 зьяўляецца намесьнікам старшыні);

в) 2 прадстаўнікі ад буйных прадпрыемстваў, з якіх 1 нам. старшыні (па назначэньню РВК);

г) 1 прадстаўнік ад мясцовага зямельнага органу;

е) 1 прадстаўнік ад мясцовага органу сацыяльнага забясьпечаньня;

д) 1 прадстаўнік мясцовага аб'яднаньня калгасаў;

ж) 3 прадстаўнікі ад рабочых арганізацый буйнейшых прадпрыемстваў раёну (гораду).

УВАГА: У тых мясцовасьцях, дзе няма кіраўніцтва кадраў, саветы арганізуюцца пры інспэктары працы пад яго старшынствам у тым жа складзе і з тымі жа функцыямі, якія паказаны ў артыкулах 18—23.

19. Старшыня савету і яго 2 намесьнікі пэрсанальна зацьвярджаюцца раённым (гарадзкім) інспэктарам працы.

20. На саветы па рынку працы ўскладаецца:

а) разгляд і зацьверджаньне аперацыйных плянаў забясьпечаньня рабочай сілай і плянаў яе падрыхтоўкі;

б) разгляд і зацьверджаньне плянаў пераразьмеркаваньня рабочай сілы;

в) разгляд і зацьверджаньне плянаў арганізаванага прыцягненьня рабочай сілы з вёскі;

г) разгляд і зацьверджаньне плянаў разьмеркаваньня спэцыялістых паміж прадпрыемствамі і ўстановамі данай мясцовасьці;

д) кантроль за выкананьнем плянаў, зацьверджаных саветам (п. п. „а"—„г"),

е) разгляд кан'юнктуры рынку працы.

21. Пасяджэньні савету склікаюцца ня менш аднаго разу ў месяц. Пасяджэньні савету адбываюцца пры наяўнасьці ня менш паловы членаў савету.

22. Усе пастановы савету прымаюцца большасьцю галасоў.

Калі член савету ня згодзен з пастановай савету, ён можа заявіць сваю асобную думку.

Пастановы, па якіх заяўлен пратэст, пераносяцца на вырашэньне раённага (гарадзкога) інспэктара працы.

Пастановы, якія не апратэставаны ў паказаным вышэй парадку, лічацца узгодненымі з адпаведнымі ўстановамі і арганізацыямі.

23. Аб членах савету, якія неакуратна наведваюць пасяджэньні савету,—старшыня савету паведамляе адпаведнай арганізацыі альбо ўстанове для накладаньня на яго дысцыплінарнага пакараньня і для замены другім працаўнікам.

**В. Раённы ўпаўнаважаны па забясьпечаньню народнай гаспадаркі рабочай сілай.**

24. На раённага ўпаўнаважанага па забясьпечаньню народнай гаспадаркі сэзоннай рабочай сілай ускладаецца:

а) выяўленьне і падлік сэзоннай рабсілы і пасылка яе на работу;

б) арганізацыя і правядзеньне вярбовак рабочай сілы, таксама кантроль над вярбоўкамі, якія праводзяцца гаспадарчымі органамі з дазволу органаў працы;

в) арганізаванае прыцягненьне сэзоннай рабочай сілы з сельскай гаспадаркі (як калгасьнікаў, так і адзіналічнікаў);

г) плянаваньне, падлік і забясьпечаньне рабочай сілай, якая прыцягваецца з транспартнымі сродкамі;

д) кантроль за правільным скарыстаньнем на работах сэзоннай рабочай сілы;

е) распрацоўка плянаў і мерапрыемстваў па перакідваньню сэзонных рабочых з менш важных на больш важныя галіны работы.

**Г. Раённыя (гарадзкія), раённа-гарадзкія страхкасы.**

25. Раённыя (гарадзкія) і раённа-гарадзкія страхкасы арганізуюцца паводле пастановы НКП БССР, узгодненай з ЦСПСБ у адпаведнасьці з пастановамі НКП СССР.

26. На раённыя (гарадзкія) і раённа-гарадзкія страхавыя касы ускладаецца:

а) правядзеньне сацыяльнага страхаваньня ў прадпрыемствах, установах і гаспадарках раёну (гораду);

б) тарыфікацыя прадпрыемстваў, устаноў і гаспадарак;

в) спагнаньне страхавых уносаў і пені;

г) ужываньне прымусовага спагнаньня страхавых уносаў;

д) узбуджэньне пытаньняў аб накладаньні на страхавальнікаў адміністрацыйных пакараньняў і прыцягненьне іх да крымінальнай адказнасьці за парушэньне правіл аб сацыяльным страхаваньні;

е) прызначэньне і выплата пэнсій і ўсіх дапамог па сацыяльным страхаваньні;

ж) удзел у складаньні каштарысаў мясцовага лекавага фонду і ў арганізацыі мэдычнай дапамогі застрахаваным, кантроль за выдаткаваньнем фондаў мэддапамогі застрахаваным і за працай лекавых устаноў, якія абслугоўваюць застрахаваных;

з) кантроль за дачай і скарыстаньнем водпускаў па часовай непрацаздольнасьці і ўдзел у рабоце органаў доктарскай экспэртызы і нагляд за работай гэтых органаў;

і) арганізацыя па даручэньню Галоўсацстраху дамоў адпачынку, санаторый, інвалідных дамоў і кіраваньне імі;

к) арганізацыя і правядзеньне сумесна з прафсаюзнымі арганізацыямі страхавой асьветы;

л) правядзеньне і ўдзел у арганізацыі розных устаноў па палепшаньню быту (яcьлі, малочныя кухні і г. д).

27. Органамі кіраваньня страхавых кас зьяўляецца камітэт страхавой касы, які абіраецца на з'езьдзе (канфэрэнцыі) прафсаюзаў.

28. Камітэты страхкас абіраюцца на тыя-ж тэрміны, што і бюро прафсаюзаў.

29. У буйных гарадох камітэт страхкасы абірае прэзыдыум з 3-5 членаў. Прэзыдыум разглядае паступаючыя ў камітэт заявы, падрыхтоўвае пытаньні да пасяджэньняў камітэту.

30. Раённыя страхавыя бюро маюць тыя самыя функцыі, што і раённыя страхавыя касы. На чале іх стаяць бюро, якія абіраюцца на з'ездах (канфэрэнцыях) прафсаюзаў паводле арт. 26.

31. Скаргі на дзейнасьць страхавых кас як застрахаванымі, так і страхавальнікамі падаюцца у Галоўсацстрах.

32. Дзейнасьць страхавых кас рэвізуецца спэцыяльнымі рэвізійнымі камісіямі.

33. Рэвізійныя камісіі абіраюцца адпаведным з'ездам (канфэрэнцыяй) прафсаюзаў адначасна з выбарамі камітэту страхкасы (бюро страхкасы) у ліку 3-5 членаў на той жа тэрмін, што і камітэт страхкасы.

Паводле пастаноў прэзыдыуму бюро прафсаюзаў увесь склад рэвізійнай камісіі альбо паасобныя яе члены могуць пераабірацца да сканчэньня паўнамоцтваў на пленумах або бюро прафсаюзаў.

34. Рэвізійная камісія абірае з свайго складу старшыню і сакратара. Рэвізійная камісія карыстаецца апаратам страхкасы (страхбюро).

35. Асноўнай задачай рэвізійнай камісіі зьяўляецца кантроль і нагляд за фінансавай, аперацыйнай, гаспадарчай і арганізацыйнай дзейнасьцю страхкасы. Рэвізійная камісія ня мае права ўмешвацца ў аперацыйную работу страхкас.

36. У функцыі рэвізійнай камісіі ўваходзіць:

а) праверка наяўнасьці грошай і іншай маемасьці касы ў адпаведнасьці з запісам іх у кнігах;

б) праверка рахункаў, кніг і інш. дакумэнтаў, а таксама запісаў іх па кнігах;

в) праверка фінансавага і гаспадарчага становішча ўстаноў, падпарадкаваных касе (інвалідных дамоў і г. д.);

г) праверка правільнасьці і сваечасовасьці дачы застрахаваным належачых ім дапамог;

д) праверка правільнасьці скарыстаньня страхавых сродкаў;

е) праверка правільнасьці і сваечаснасьці ажыцьцяўленьня касай заканадаўства аб сацыяльным страхаваньні і пастаноў і загадаў Саюзнага і Рэспубліканскага саветаў сацыяльнага страхаваньня і Галоўсацстраху;

ж) праверка пастаноўкі і вядзеньне справаводзтва, рахункаводзтва і справаздачнасьці кас (бюро);

з) праверка законнасьці і мэтазгоднасьці заключаных касай дагавораў;

і) дача заключэньняў па скаргах застрахаваных на дзеяньні касы (бюро);

к) праверка работы касы (бюро) па спагнаньню страхуносаў, змаганьню з запазычанасьцю;

л) праверка работы страхавых кас (бюро) па правядзеньню страхавой асьветы;

м) праверка ўдзелу касы (бюро) ў працы па арганізацыі мэддапамогі застрахаваным, пастаноўкі работы доктарска-кантрольных камісій.

37. Рэвізійная работа рэвізійнай камісіі ажыцьцяўляецца праз пэрыядычныя і раптоўныя абсьледваньні. Пэрыядычныя абсьледваньні робяцца адзін раз у 6 месяцаў.

38. Акты рэвізіі падаюцца рэвізійнай камісіяй у камітэт страхкасы (бюро страхкасы) і Галоўсацстрах.

39. У сваёй працы рэвізійныя камісіі кіруюцца заканадаўствам аб сацыяльным страхаваньні, пастановамі і загадамі Саюзнага і Рэспубл. саветаў сацыяльнага страхаваньня і Галоўсацстраху.

40. Раённыя (гарадзкія) інспэкцыі працы, кіраўніцтвы кадраў і страхавыя касы (бюро) падаюць справаздачы аб сваёй дзейнасьці ў НК Працы БССР, РВК (гарсаветы) і бюро прафсаюзаў у тэрміны, устаноўленыя НК Працы БССР.

41. Інспэктары працы, кіраўніцтвы кадраў, страхкасы (страхбюро) маюць штампы і пячатку ўстаноўленай формы. Страхкасы (страхбюро) маюць пячаткі з дзяржаўным гэрбам.

**Д. Узаемаадносіны страхкас (бюро) з інспэкцыяй працы.**

42. У аперацыйных адносінах страхавыя касы (страхбюро) самастойны ў межах страхавога заканадаўства і працуюць па дырэктывах НКП СССР, Саюзнага і Рэспубліканскага саветаў сацыяльнага страхаваньня і Галоўсацстраху.

43. У галіне спагнаньня страхавых уносаў і выдаткаваньня страхавых фондаў (назначэньне і выплата забясьпечаньня і аказаньне інш. відаў дапамогі застрахаваным), страхавыя касы нясуць адказнасьць беспасрэдна перад НК Працы БССР і ў гэту працу інспэктары працы ня могуць умешвацца.

44. Інспэктары працы ажыцьцяўляюць кіраваньне і нагляд за законнасьцю дзеяньняў страхавых кас (страхбюро) і за выкананьнем імі загадаў вышэйшых органаў.

Інспэктары працы прыпыняюць незаконныя дзеяньні страхавых кас (страхбюро) і на працягу 3-х дзён паведамляюць аб гэтым НК Працы БССР.

45. Інспэктары працы маюць права назначыць рэвізію спраў страхкасы (страхбюро) праз яе рэвізійную камісію.

46. Даклады па пытаньнях сацыяльнага страхаваньня ў РВК (гарсавет) уносяцца за подпісамі інспэктара працы і старшыні касы (бюро).

47. Страхавыя касы (страхбюро) падаюць інспэктарам працы на зацьверджаньне пляны сваёй работы.

48. Страхавыя касы (страхбюро) павінны падаваць інспэктарам працы:

а) усе выдаваемыя імі загады і распараджэньні;

б) пратаколы пасяджэньняў камітэтаў страхкас і іх прэзыдыумаў;

в) пэрыядычныя справаздачы аб выкананьні пляну работ;

г) фінансавыя справаздачы і даклады аб выкананьні бюджэту.

49. З выданьнем гэтага палажэньня касуюцца палажэньне пра мясцовыя органы НК Працы БССР (Бюл. СНК БССР 1929 г. №№ 9 і 13) і інструкцыя НК Працы БССР за 6/X-1927 г. № 80 (Бюл. СНК БССР 1927 г. № 16).

Народны Камісар Працы БССР **М. Гнілякевіч.**

18 сьнежня 1930 г.
№ 68.

# Пастанова Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР.

## Паст. 205. Пра аплату натарыяльных дзеяньняў і тэхнічных паслуг сельскіх, местачковых і гарадзкіх саветаў адзінай дзяржаўнай пошлінай.

З 1-га кастрычніка 1930 г. набываюць сілу: а) пастанова ЦВК і СНК СССР за 2 верасьня 1930 г. „Пра падатковую рэформу" (З. З. Саюзу ССР 1930 г № 46, арт. 476) і б) Палажэньне аб адзінай дзяржаўнай пошліне (З. З. СССР 1930 г. № 46, арт. 480).

На падставе паказаных пастаноў з 1 кастрычніка 1930 г. натарыяльныя органы, у тым ліку і сельскія, местачковыя і гарадзкія саветы, пры выкананьні імі натарыяльных дзеяньняў бяруць адзіную дзяржаўную пошліну замест гэрбавага і натарыяльнага збораў, а таксама надбаўкі да натарыяльных збораў, якія спаганяліся раней.

З прычыны гэтага Народны Камісарыят Юстыцыі і Народны Камісарыят Фінансаў БССР пастанаўляюць замест пастановы НКЮ і НКФ за 19/V-1930 г. „Пра аплату натарыяльных дзеяньняў і тэхнічных паслуг сельскіх, местачковых і гарадзкіх саветаў" (Бюл. СНК БССР 1930 г. № 10, паст. 110) зацьвердзіць наступныя правілы:

### 1. Агульныя правілы.

1. За кожнае натарыяльнае дзеяньне (пасьведчаньне зьдзелак і дакумэнтаў), якое выконваецца сельскім, местачковым або гарадзкім саветам, а таксама за складаньне праектаў зьдзелак і даверанасьцяў і за надрукаваньне альбо напісаньне копій дакумэнтаў бярэцца адзіная пошліна паводле ставак, устаноўленых у гэтай пастанове.

Спагнаная паводле гэтай пастановы пошліна здаецца ў мясцовы бюджэт.

2. Адзіная дзяржаўная пошліна зусім не спаганяецца з дзяржаўных установаў, грамадзкіх арганізацый і прадпрыемстваў аграмаджанага сэктару, а таксама з асоб, вызваленых судом ад судовых збораў, калі яны просяць пасьведчыць ім дакумэнт альбо копію для паданьня ў суд па справе, па якой суд вызваліў іх ад судовых збораў.

Аслабаняюцца ад уплаты адзінай дзяржаўнай пошліны таксама вайскоўцы кадравага, радавога і малодшага начальніцкага складу тэрміновай службы:

а) за пасьведчаньне даручэньняў на вядзеньне спраў у судох і адміністрацыйных установах, а таксама даручэньняў на атрыманьне заработнай платы і на атрыманьне грашовай, паштовай і пасылачнай карэспандэнцыі і

б) за пасьведчаньне копій дакумэнтаў, якія падаюцца ў дзяржаўныя ўстановы і грамадзкія арганізацыі.

3. Адзіная дзяржаўная пошліна не бярэцца з наступных дакумэнтаў:

а) дакумэнтаў, якія патрабуюцца вайсковымі ўстановамі ад грамадзян па справах, што датычаць прызыву іх на вайсковую службу і для выкананьня вайсковай службы;

б) усялякіх дакумэнтаў, што датычаць атрыманьня і спагнаньня заработнай платы, сродкаў на ўтрыманьне, пэнсій і дапамог ад органаў сацыяльнага страхаваньня і сацыяльнага забясьпечаньня;

в) пасьведчаньняў копій дакумэнтаў, якія выдаюцца пры паступленьні ў навучальныя ўстановы і якія падаюцца ў органы сацыяльнага забясьпечаньня;

г) пасьведчаньне сельскімі саветамі подпісаў на паштовых павестках на атрыманьне ўсякага роду лістоў, апроч каштоўных пакетаў.

4. Пры пасьведчаньні зьдзелак, калі з аднае з старон зьнята адзіная дзяржаўная пошліна, то пошліна цалкам аплачваецца другой староной.

5. Для асоб і арганізацый, якія не належаць да катэгорый, паказаных у арт. 3 гэтай інструкцыі, адзіная дзяржаўная пошліна ўстанаўляецца неаднолькавая ў залежнасьці ад сацыяльнага становішча платнікаў, якія падзяляюцца на дзьве групы:

а) першая група—асобы, якія абкладаюцца адзіным сельска-гаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку, і асобы, абкладаемыя падаткам па распісаньню № 3 (уласьнікі, арэндатары, пайшчыкі ўсякага роду прамысловых прадпрыемстваў, маклеры, пастаўшчыкі і падрадчыкі, а таксама асобы, якія атрымліваюць даход ад грашовых капіталаў і ад выкананьня абавязкаў служыцеляў рэлігійных культаў);

б) другая група— рабочыя, служачыя і прыроўненыя да іх асобы (беспрацоўныя, вучні і дзяржаўныя пэнсіянэры); сяляне, за выключэньнем абкладзеных сельска-гаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку; саматужнікі і іншыя прыватныя арганізацыі і асобы за выключэньнем тых, што належаць да першай групы (п. „а“), г. зн. тых, што плацяць падаходны падатак па распісаньню № 3.

Для платнікаў другой групы ўстанаўляюцца больш льготныя разьмеры пошліны.

6. Аплата адзінай дзяржаўнай пошліны па стаўках, устаноўленых для другой групы платнікаў (п.„б“ арт. 5) робіцца толькі тады, калі маюцца дакумэнтальныя довады (доказы) належнасьці стараны да гэтай групы платнікаў (рабочыя, служачыя і г. д.). Калі-ж такіх довадаў няма, пошліна падлічваецца паводле вышэйшых ставак, устаноўленых для платнікаў першай групы (п.„а“ арт. 5);

7. Адзіная дзяржаўная пошліна ўстаноўлена двух відаў:

а) або бярэцца пэўная сума пошліны за натарыяльнае дзеяньне незалежна ад сумы дакумэнтаў, якія пасьвядчаюцца; напрыклад, за пасьведчаньне тэстамэнтаў (завяшчаньняў) бярэцца 2 р. з платнікаў першай групы (п. „а“ арт. 5) і 1 руб.—з рабочых, служачых і іншых платнікаў другой групы (п. „б“ арт. 5);

б) альбо разьмер пошліны падлічваецца ў процантах з сумы зьдзелкі ці дагавору, якія пасьвядчаюцца (прапарцыянальная пошліна), напрыклад, 2%.

Прапорцыянальная пошліна бярэцца з сумы дакумэнту альбо дагавору.

У суму зьдзелкі альбо дагавору ўваходзяць тыя плацяжы, якія павінны быць зроблены паводле гэтай зьдзелкі або дагавору.

Сума зьдзелкі абвяшчаецца старанамі. Калі прадметам зьдзелкі зьяўляюцца ня грошы, а тавары, сыравіна і г.д., то кошт гэтых прадметаў вызначаецца старанамі, калі-ж вызначаную старанамі суму савет лічыць занадта нізкай, то ён вызначае суму на падставе даведачных цэн.

Па дагаворах продажу, дарэньня і заставы будынкаў і права забудоўкі сумай дагавору лічыцца страхавая альбо падатковая ацэнка ў залежнасьці ад таго, якая з іх вышэй.

Калі робіцца мена будынкаў, дык сумай дагавору лічыцца ацэнка больш каштоўнага будынку.

8. Пошліна ўплачваецца грашыма альбо асобна ўстаноўленымі маркамі. Уплачаная пошліна назад не зварачваецца.

### II. Стаўкі пошліны за натарыяльныя дзеяньні.

9. За натарыяльнае пасьведчаньне зьдзелак, заключаемых паасобнымі асобамі, апроч дагавораў, паказаных у арт. 11, бярэцца два проценты (2⁰/₀) з сумы дагавору, але ня менш 1 рубля з асоб, што належаць да першай групы платнікаў (п. „а“ арт. 5) і адна чацьвертая проценту ($^1/_4$⁰/₀), але ня менш 1 рубля, з асоб другой групы (п. „б“ арт. 5).

10. За натарыяльнае пасьведчаньне дагавораў, якія не падлягаюць ацэнцы, а таксама дагавораў парукі і тэстамэнтаў (завяшчаньняў) бярэцца 2 руб. за кожны дагавор з платнікаў першай групы (п. „а“ арт. 5) і 1 руб.—з платнікаў другой групы (п. „б“ арт. 5).

11. За натарыяльнае пасьведчаньне дагавораў пра перадачу праў і абавязкаў па дагавору бярэцца палова той стаўкі, якая ўстаноўлена для аплаты асноўнага дагавору, правы і абавязкі па якому перадаюцца.

12. За пасьведчаньне арыгіналу подпісаў на заявах і іншых дакумэнтах, але не на дагаворах, бярэцца 2 руб. з платнікаў першай катэгорыі (п. „а“ арт. 5) і 15 коп.—з платнікаў другой катэгорыі (п. „б“ арт. 5).

13. За пасьведчаньне копій дакумэнтаў, выданых альбо пасьведчаных дзяржаўнымі ўстановамі, бярэцца:

а) 2 р. за кожную старонку з 35 радкоў—з платнікаў першай катэгорыі (п. „а“ арт. 5) і

б) 50 коп. за кожную старонку—з платнікаў другой катэгорыі (п. „б“ арт. 5).

14. За натарыяльнае пасьведчаньне даверанасьцяй бярэцца плата паводле наступных ставак:

а) за даверанасьці на кіраваньне маемасьцю працоўнага сялянскага двара—1 руб.;

б) за даверанасьці на кіраваньне іншай маемасьцю—15 руб. для платнікаў першай катэгорыі (п. „а“ арт. 5) і 10 руб.—для платнікаў другой групы (п. „б“ арт. 5).;

в) за іншыя даверанасьці—3 руб. з платнікаў першай групы (п. „а“ арт. 5) і 2 руб. з платнікаў другой групы (п. „б“ арт. 5).

### III. Стаўкі пошліны за тэхнічныя паслугі.

15. За складаньне праекту дагавору бярэцца:

а) 10 р.—з платнікаў першай групы (п. „а“ арт. 5) і

б) 5 р.—з платнікаў другой групы (п. „б“ арт. 5).

16. За складаньне праектаў даверанасьцяй бярэцца:

а) 3 руб.—з платнікаў першай групы (п. „а“ арт. 5) і

б) 50 кап.— з платнікаў другой групы (п. „б“ арт. 5).

17. За складаньне праектаў тэстамэнтаў бярэцца:

а) 15 руб.—з платнікаў першай групы (п. „а“ арт. 5) і

б) 3 руб.—з платнікаў другой групы (п. „б“ арт. 5).

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **П. Валасевіч.**

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР **Л. Бунін.**

30 лістапада 1930 г.
№ 49.

## Пастановы Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР.

**Паст. 206. Пра вызваленьне Дзяржаўнага Банку ад адзінай дзяржаўнай пошліны.**

На падставе арт. 8 Палажэньня пра адзіную дзяржаўную пошліну (З. З. СССР 1930 г. № 46, арт. 480), Народны Камісарыят Фінансаў БССР пастанаўляе вызваліць ад адзінай дзяржаўнай пошліны Дзяржаўны Банк СССР.

Народны Камісарыят Фінансаў БССР: **Л. Бунін.**
**Валіцкі.**

30 лістапада 1930 г.
№ 25.

**Паст. 207. Па дапаўненьне арт. 1 пастановы НКФ БССР за 17/X-30 г. № 21 „Пра выняткі па адзінай дзяржаўнай пошліне".**

На падставе арт. 8 Палажэньня пра адзіную дзяржаўную пошліну (З. З. СССР 1930 г. № 46, арт. 480) НКФ БССР пастанаўляе:

Дапоўніць арт. 1 пастановы НКФ БССР за 17/X-1930 г. № 21 „Пра выняткі па адзінай дзяржаўнай пошліне" (Бюл. СНК БССР 1930 г., № 23, паст. 186) пунктам „з" наступнага зьместу:

„з) натарыяльныя дзеяньні па дакумэнтах немаемаснага характару у тых выпадках, калі на падставе пададзеных дакумэнтаў натарыусам будзе прызнана, што заяўнік ня мае сродкаў на аплату гэтых дзеяньняў. Гэтая льгота можа давацца толькі платнікам 2-й катэгорыі (Палажэньне пра адзіную дзяржаўную пошліну, арт. 2, п. „б")".

Народны Камісарыят Фінансаў БССР: **Л. Бунін.**
**Айзінсон.**

3 сьнежня 1930 г.
№ 26.




**Адказны Рэдактар С. Лодысеў.**

Друкарня Кір. Спраў СНК і Эканомнарады БССР. З. № 314—4600 экз. Галоўлітбел № 1572.